## Мікола ЧАРНЯЎСКІ

### Гульня ў класікі

Ён дзетак рыфмай забаўляў,
Катаў іх на Пегасіку.
А з імі ў «класы» пагуляў –
Сябе ўявіў
Дзіцячым класікам.
Бяда ж, бо дзеці
Ў штуку гэту
Цяпер гуляюць больш
Па інтэрнэту.



### Загартоўка

На загартоўку
Тэст здаю.
Куды прапала тая стома?
У будзень –
Ля станка стаю.
У выхадны ж –
Ля гастранома.
Сяброў –
Увесь мікрараён.
Чаму ж завуць
Пах-ме-лі-ён?





Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




• Ісціна – гэта адкрыццё таго, што ўжо адкрыта.

• Якой мовай не валодай, а з жанчынай дамовіцца ўсё роўна цяжка.

• Чужыя сны не прысняцца.

• Кожнаму чалавеку патрэбна кніга, але не кожнай кнізе патрэбны чытач.

• Свой час шкадуюць усе, чужы – ніхто.

• Мудрасць – здольнасць памятаць пра памылкі.

• Нават маленькі жук ідзе сваёй дарогай.

**Даслаў Васіль ДЗЯМБІЦКІ,**
*Талачынскі раён,*
*в. Звенячы.*





• Шкуру незабітага мядзведзя дзеляць не толькі паляўнічыя.

• У люстэрку можна ўбачыць усё, апроч сваёй дурасці.

• З цвярозым позіркам у бутэльку не заглядваюць.

• У жыцці ёсць усё, але кожнаму чагосьці не хапае.

• Чалавек, у якога спіць сумленне, ад бяссонніцы не пакутуе.

• Нішто так не перашкаджае, каб жыццё было поўным, як пустая галава.

• Абуць у лапці можна і не босага чалавека.

• У палоне кахання хочацца заставацца як мага даўжэй.

• І для палёту думак важна добрае прызямленне.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

# Іголка-тэрапія

## «Чароўныя» машыны

***Брэсцкая вобласць.*** Ёсць адна чарадзейная казка пра дрэвы, на якіх расло рознае адзенне. А на яве падобныя цуды адбываліся на брэсцкіх прыгранічных дарогах.

Спачатку міліцыянеры і пагранічнікі спынілі «Таёту», у якой знаходзілася шмат упаковак з дарагім італьянскім жаночым адзеннем і абуткам. Паходжанне гэтага нелегальнага тавару на агульную суму 913 мільёнаў рублёў вадзіцель аўтамабіля так і не змагла патлумачыць.

Затым такую ж «чароўную» машыну з бауламі адзення затрымалі каля вёскі Камароўка. Мноства куртак і футра былі ацэненыя ў больш чым два мільярды рублёў.

Спасылкі вадзіцеляў на чарадзейную казку не дапамаглі. Тавар канфіскаваны.



## «Змагар» супраць курэння

***Мінск.*** Змагацца супраць курэння можна па-рознаму. Напрыклад, пазначаць на пачках цыгарэт, што курэнне выклікае ракавыя захворванні. Адзін сталічны прадпрымальнік быў так уражаны гэтай інфармацыяй, што сабраў каля тысячы пачак цыгарэт розных марак і схаваў іх у сваім аўтамабілі.

Але супрацоўнікі міліцыі чамусьці не паверылі ў яго добрыя намеры і забралі нелегальны тавар. Цяпер гісторыю пра шкоду курэння заслухаюць у Гаспадарчым судзе...



## Цяга да прыгажосці

***Магілёў.*** «Аўтамабіль — не раскоша, а сродак перамяшчэння», — казаў Астап Бэндэр. А ў цяперашні час для многіх людзей машына — гэта яшчэ і другі дом, у якім днююць і начуюць. І мараць пра тое, каб гэты дом выглядаў прыгожа і адмыслова.

Вось і вадзіцель аднаго прыватнага прадпрыемства вырашыў зарабіць на такой прыгажосці грошы. Калі фінансавыя міліцыянеры спынілі яго машыну каля аўтарынка па Гомельскім шасэ, то знайшлі ў ёй партыю маторных маслаў, аўтакасметыку і аўташыны, а вось суправаджальныя дакументы на гэты тавар агульным коштам 14 мільёнаў рублёў — не...

За такую цягу да прыгажосці вадзіцелю пагражае штраф ад 30 да 50 базавых велічынь. З канфіскацыяй аўтамабільнага набытку.



## Мука для Калабка

***Віцебская вобласць.*** Вырашылі неяк адны любіцелі казак спячы ў Расіі Калабок (казка ж руская народная!). Паскрэблі па засеках ды назбіралі ажно 60 тон жытняй мукі, ледзьве ў тры грузавыя аўтамабілі змясцілася. Ды, як на тое ліха, спынілі іх на мяжы з Расіяй міліцыянеры. «Хоць Калабка пячыце, хоць абаранкі, — сказалі яны, — мы нічога супраць не маем, але дзе вашы фітасанітарныя сертыфікаты на муку?» Тыя толькі рукамі развялі...

Так і скончылася гэта задума нічым, бо казкі чытаць ніхто не забараняе, але законы трэба ведаць і выконваць.




***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***







Малюнкі Алега ПАПОВА.

**Мікола СІСКЕВІЧ**

## Прызнанне аўтаінспектару

Не даю сабе я волі,
За рулём не п'ю ніколі.
Я спачатку выпіваю,
А пасля ў аўто сядаю.






## Палажэнне патрабуе змен

Старшыня Камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Брэсцкага аблвыканкама М. Аксяневіч уважліва вывучыў сатырычны матэрыял «Паповыя вочы» («Вожык» № 7 за 2012 год) і патлумачыў сітуацыю. Згодна з Палажэннем аб парадку фінансавання і кампенсацыі затрат на стварэнне і захаванне працоўных месцаў для інвалідаў, зацверджаным Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, працоўныя месцы для інвалідаў, створаныя з выкарыстаннем дзяржаўных сродкаў, наймальнікі абавязаны захоўваць не менш за тры гады пасля працаўладкавання на іх інвалідаў. Па заканчэнні тэрміну на гэтыя месцы могуць быць працаўладкаваны работнікі, якія не з'яўляюцца інвалідамі. Як і адбылося ў выпадку з арганізацыямі грамадскіх аб'яднанняў інвалідаў Брэсцкай вобласці, калі пасля звальнення інвалідаў на дадзеныя працоўныя месцы былі прыняты іншыя работнікі.

Між тым, у лютым гэтага года Камітэт звяртаўся ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь з прапановай унесці ў Палажэнне змены, якія ўстановяць адказнасць наймальніка за незахаванне створаных працоўных месцаў і агульнай колькасці работнікаў.

## «Падпольная «школа магаў» зачынілася

«Падпольная «школа магаў» («Вожык» № 8 за 2012 год) сапраўды «працавала» ў Кобрынскім райвыканкаме. Як паведаміў намеснік пракурора Брэсцкай вобласці старшы саветнік юстыцыі А. Тачко, парушэнні заканадаўства пры фарміраванні жыллёва-будаўнічых кааператываў і здачы жылых дамоў у эксплуатацыю ў г. Кобрыне былі допушчаны па прычыне неналежнай арганізацыі работы спецыялістаў аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама, а таксама адсутнасці кантролю з боку начальніка гэтага аддзела і намесніка старшыні райвыканкама, які курыруе аддзел жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Акрамя таго, пры фарміраванні жыллёва-будаўнічых кааператываў у 2010–2011 гг. адсутнічала каардынацыя ўсіх неабходных служб, аддзелаў райвыканкама, упраўлення капітальнага будаўніцтва, будаўнічых арганізацый, што выступалі генпадрадчыкамі і субпадрадчыкамі.

За неналежнае выкананне службовых абавязкаў да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнуты работнікі КУП «Кобрынскае УКБ»: вымову і заўвагі атрымалі галоўны бухгалтар В. Безгіна і інжынер тэхнічнага аддзела Д. Дземідзюк, юрыст В. Атветчыкаў. Аб'яўлена вымова намесніку старшыні райвыканкама А. Майсеюку, а галоўны спецыяліст аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама Л. Зыбайла і начальнік гэтага аддзела В. Гембаль вызвалены ад займаемых пасад.

## Бытавое абслугоўванне насельніцтва мадэрнізіруецца

Намеснік начальніка дзяржаўнай установы «Упраўленне бытавога абслугоўвання насельніцтва Віцебскай вобласці» В. Рабінава ўважліва вывучыла крытычны матэрыял «Як віцебскіх «бытавікоў» быт «заеў» («Вожык» № 8 за 2012 год) і запэўніла, што сітуацыя ўзята пад пільны кантроль. Установай сумесна з райвыканкамамі распрацаваны і зацверджаны старшынёй Камітэта эканомікі Віцебскага аблвыканкама мерапрыемствы па паэтапным выхадзе прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання насельніцтва на бясстратную дзейнасць ад рэалізацыі работ, паслуг і прадукцыі на 2011–2015 гады. Прадугледжаны канкрэтныя меры па развіцці і мадэрнізацыі на прадпрыемствах перспектыўных вытворчасцей, а таксама асваенні новых высокарэнтабельных відаў паслуг. Напрыклад, за мінулы год асобныя прадпрыемствы бытавога абслугоўвання Віцебскай вобласці асвоілі такія паслугі, як рамонт і пашыў футравых і скураных вырабаў, пашыў чахлоў са скуры і скуразамяняльнікаў, апрацоўка прысядзібных участкаў, перавозка грузаў, рамонт даху, нарыхтоўка і дастаўка дроў, выраб драўляных агароджаў, чыстка пуха-пёравых вырабаў, арганізаваны прыём заказаў на выраб і рамонт ключоў, металавырабаў, рамонт парасонаў і шэраг іншых.

Таксама прымаюцца меры па павелічэнні зарплаты работнікам прадпрыемстваў, вядзецца работа па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы прадпрыемстваў. Увогуле за першае паўгоддзе 2012 года адкрыты 51 аб'ект бытавога абслугоўвання насельніцтва, створана і мадэрнізавана 189 рабочых месцаў.

## Сітуацыя пад кантролем

Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама А. Ісачэнка прачытаў сатырычны матэрыял «Гара нарадзіла мыш» («Вожык» № 8 за 2012 год) і запэўніў, што эфектыўнасць работы сельскагаспадарчай галіны Краснапольскага раёна знаходзіцца на пастаянным кантролі ў аблвыканкаме, а Камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванні аблвыканкама ўдзяляе павышаную ўвагу рабоце УКСП «Краснапольскі». Так, на калегіі аблсельгасхарчу былі разгледжаны вынікі работы гэтага прадпрыемства і выпрацаваны канкрэтныя прапановы для райсельгасхарчу па павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і павышэнні яе эфектыўнасці. Зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі адбылося ў 2011 годзе. У сувязі з гэтым былі прыняты кадравыя рашэнні: заменены начальнік райсельгасхарчу і кіраўнік гаспадаркі.

Акрамя таго, у мэтах стабілізацыі работы сельскагаспадарчай галіны Краснапольскага раёна аблвыканкам разглядае варыянты па рэфармаванні УКСП «Краснапольскі».

## «Выратавала» амністыя

Начальнік Салігорскага раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь А. Майсяеня прачытаў крытычны матэрыял «Як Заблоцкі на мыле» («Вожык» № 8 за 2012 год) і праінфармаваў, што папярэдняе расследаванне крымінальнай справы, узбуджанай у дачыненні да грамадзянак А. Зіневіч і Н. Трубчык, спынена ў сувязі з амністыяй.



# Кнігарня «Вожыка»



## Калі жартуе сябар…

*Вельмі прыемна сустракацца з добрымі, жыццярадаснымі, вясёлымі людзьмі, з якімі цябе звязваюць яшчэ і агульныя інтарэсы. Такімі з'яўляюцца для мяне сустрэчы з маім калегам па пяры, пісьменнікам-гумарыстам Міхасём Слівай. Але паколькі мы жывём у розных гарадах (Міхась Мітрафанавіч – у Рагачове, а я – у Гомелі), то здараецца гэта не так часта, як хацелася б.*

*Але нядаўна я ўсё ж сустрэўся з М. Слівай. Дакладней, не з ім, а з яго новай кнігай «Друзья познаются в... шутках». (Зборнік выйшаў у Мінску ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» на рускай мове.) У назву кнігі аўтар уклаў глыбокі сэнс, бо ў жарце праяўляюцца вельмі важныя асаблівасці чалавечага характару: аптымізм, дружалюбнасць, таварыскасць.*

*На старонках выдання змешчана шмат забаўных жыццёвых гісторый. Адзін з герояў кнігі толькі з дапамогай SMS-пасланняў па сотавым тэлефоне вядзе любоўны дыялог з дзяўчынай і праз дзевяць месяцаў даведваецца, што ён стаў бацькам; другі няўмела дорыць кветкі сваёй жонцы, з-за чаго трапляе ў няёмкае становішча; а офіс-вумен Ніна аказваецца простай прыбіральшчыцай... Пісьменнік не пакідае без сваёй увагі і сур'ёзныя чалавечыя недахопы, высмейваючы і крытыкуючы іх. Але робіць ён гэта зусім незласліва, як бы імкнецца дапамагчы героям кнігі хутчэй пазбавіцца ад іх. І галоўнае – усё напісана таленавіта і смешна.*

*Міхась Сліва ўмее добра і разумна жартаваць. Гэта асаблівы дар, які шчодра дала яму прырода. Нездарма ён стаў лаўрэатам рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» у намінацыі «Сатыра і гумар», часта друкуецца ў часопісе «Вожык», выдаў шмат кніг.*

*Міхась Мітрафанавіч справядліва лічыць, што чым часцей чалавек «памірае» ад смеху, тым даўжэй ён жыве. І таму сваімі творамі пастаянна ганіць ад людзей нудоту, дорыць ім весялосць, здароўе і даўгалецце. Я думаю, што сустрэча чытачоў з новай кнігай пісьменніка будзе такой жа прыемнай і цікавай, як і для мяне.*

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
пісьменнік-гумарыст.




**Міхась СЛІВА**

## Сябры пазнаюцца ў… жартах

*Гумарэска*

У Івана Мікітавіча ёсць некалькі любімых свят. Гэта Новы год, Каляды і... Першага красавіка. Дзень гумару для яго нават больш жаданы, чым іншыя, бо Іван Мікітавіч вельмі любіць жартаваць. У звычайныя дні іншы можа пакрыўдзіцца на твой жарт, а першага красавіка – раздолле: жартуй колькі хочаш і з каго хочаш, нават начальніку свайму можаш сказаць, што ў яго спіна белая!..

На гэты раз першае красавіка прыпала на выхадны дзень. Таму Іван Мікітавіч вырашыў разыграць сваіх знаёмых. Патэлефанаваў аднаму з іх, Анатолю:

– Толя, прывітанне! Ты чым займаешся? Адпачываеш? Вось і добра! Мне трэба быць у вашым раёне, дык я хачу зайсці да цябе. Даўно не бачыліся. Пасядзім, пагаворым...

– Добра, заходзь, – не вельмі ўпэўнена адказаў Анатоль.

Іван Мікітавіч набраў другі нумар:

– Аркадзь Васільевіч! Гэта цябе турбуе Іван Мікітавіч. Сёння буду па справах у вашым краі, зайду да цябе. Рыхтуй закуску!

Іван Мікітавіч перавёў дыханне і пачаў зноў круціць дыск тэлефоннага апарата:

– Лёня? Пазнаў? Так, я, Іван Мікітавіч. Збіраюся да цябе ў госці. Будзеш чакаць? Вось і выдатна, еду!

Хітра ўсміхнуўшыся, Іван Мікітавіч зручна ўладкаваўся на канапе і ўзяў у рукі сваю любімую газету. Неўзабаве ён ужо меладычна пахрапваў...

Пабудзіў яго тэлефонны званок. Званіла жонка Анатоля.

– Іван Мікітавіч, добры дзень! Гэта Ніна. Хачу сказаць табе, што Толю нечакана выклікалі на працу, там нешта здарылася. Калі вернецца? Не ведаю, але сказаў, што не хутка...

Праз некаторы час зноў зазваніў тэлефон. На гэты раз патурбаваў Аркадзь Васільевіч:

– Іван Мікітавіч! Ты прабач, дружа, але мне трэба дапамагчы цешчы шафу перасунуць. Едзем вось з жонкай. Трэба ж уважыць старога чалавека. Таму сустрэнемся ў іншы раз. Ты звані, заходзь, буду рады!

Не паспеў Іван Мікітавіч зноў уладкавацца на канапе, як давялося ў трэці раз здымаць тэлефонную трубку:

– Алё! Дзядзька Ваня? – пачуўся на тым канцы проваду дзіцячы голас. – Гэта я, Вова. Тата сказаў, што ён паехаў на вакзал сустракаць маму з цягніка. Вернецца позна...

Іван Мікітавіч весела засмяяўся, падміргнуў сабе, гледзячы ў люстэрка, і не спяшаючыся ўзяўся за газету.









Малюнкі Міколы ГІРГЕЛЯ.

## Вожыку пішуць...

**Дружа Вожык!** Жыву я ў вёсачцы Капусціна Вілейскага раёна. Край у нас лясны, паветра чыстае, грыбоў ды ягад хапае. Дзе-нідзе застаўся яшчэ векавы бор, дзе сосны і не абдыміш нават. Але, на жаль, дрэў становіцца з кожным годам усё менш і менш, бо іх паступова высякаюць. Сэрца крывёй абліваецца, калі заходзячы ў знаёмы з дзяцінства хвойнік, не пазнаеш яго.

Нават я, уздоўж і ўпоперак абышоўшы гэты лес ці не дзесяць тысяч разоў, магу дзе-нідзе і заблукаць з-за высечак. А што казаць пра людзей, якія бываюць у ім нячаста? Колькі разоў за лета мне званілі на мабільны тэлефон кабеты-аднавяскоўкі і слёзна прасілі: «Саша, родненькі, дапамажы з лесу выйсці! Здаецца, і недалёка зайшла, а дзе я цяпер, зразумець не магу!» Даводзілася ісці і вызваляць іх з лапаў ельніку...

Ды і цябе, мой любы Вожык, шкада. Дзе ты будзеш бегаць, калі ўвесь лес высекуць? Хіба толькі паміж кустоў якіх. Але, мяркую, такая перспектыва табе не вельмі падабаецца.

**Аляксандр ЧУПРЫС.**

**Братка Вожык!** Прачытала я навіну, што зусім нядаўна ў Расіі прынялі закон «О защите детей от информации...», паводле якога мульцікі «Ну, погоди!», «Винни-Пух», «Чебурашка» лічацца небяспечнымі для свядомасці будучага пакалення. Увогуле «Ну, погоди!» дазваляецца паказваць па тэлевізары толькі пасля 23 гадзін вечара. Гэта ўсё з-за таго, што гэты мульцік нібыта прапагандуе шкодныя звычкі.

Можа, таму, што я вырасла на гэтым мульціку, выраслі мае дзеці, не магу зразумець, чаму яго забаранілі. Фільм жа добры, смешны, я б нават сказала, што ў ім наадварот паказана, што курыць, злоўжываць алкаголем дрэнна. Калі параўнаць, як намаляваны гэты мультфільм і як выглядаюць усялякія «спанчбобы», то я, безумоўна, аддаю сваю перавагу «Ну, погоди!».

Спадзяюся (і, відаць, многія са мной пагодзяцца), што ў нашай краіне не прымуць такі ж закон. Што нашы дзеці як глядзелі, так і будуць глядзець добрыя савецкія мульцікі, якія выхоўваюць і робяць іх сапраўднымі людзьмі.

**Антаніна ГАЛУБОК,**
*г. Столін.*





Малюнкі Аляксандра ШМІДТА.

**Ірына ЛЯВОНАВА**




У апошні час у маскоўскіх тэатрах нярэдка затрымліваюць пачатак прадстаўлення. Гледачы абураюцца.

— Я, між іншым, таксама нядаўна была ў тэатры... — пачала адна дзяўчына.

— Не ў тэатры, а ў цырку, — паправіла яе сяброўка.

— Якая розніца! Дык там у час пачыналі.

— Малпы пунктуальныя трапіліся, — заўважыў малады чалавек, які сядзеў побач.

* * *

Рым. Раніца. Турысты, змятаючы ўсё на сваім шляху, бягуць па вузкай лесвіцы гасцініцы ўніз.

Адзін з наведвальнікаў, спрытна ўхіліўшыся ад чарговага любіцеля старажытнасці, пацiснуў плячыма:

— Навошта так ляцець? Камянёў хопіць на ўсіх!

* * *

Кафэ «У лукоморья». Пад шыльдаю — прыпіска: «Днём — быль, а ноччу — казка!»

* * *

Размова ў маршрутцы паміж бабуляй і ўнучкай:

— Бабуля, мне ў гэтых воблаках такія конікі ўяўляюцца! Розныя-розныя.

— Але, унучка, асабліва вунь тое воблака, яно...

— Бабуля, — перабівае дзяўчынка пакрыўджана, — гэта мае фантазіі, а не твае!..

* * *

Зала акадэмічнага тэатра. Пачалася ўверцюра да оперы. Дзве дамы працягваюць весці актыўную размову, шамацяць паперай, у якую загорнуты здобныя булачкі, далікатна адломваюць ад іх кавалачкі.

Дама, што сядзіць уперадзе, абарочваецца і гнеўна шэпча:

— Няўжо нельга цішэй!

Адна з дам здзіўляецца:

— Чаго яна хацела? На сцэне ж нікога няма.

— А яна музыку прыйшла слухаць! — хмыкае другая.

— Не, ну што за людзі пайшлі! Заўсёды гатовы іншым на пустым месцы настрой сапсаваць!

* * *

Плакат пры выездзе з аэрапорта: «Даляцелі? Пазваніце родным і блізкім».

* * *

Жанчына бальзакаўскага ўзросту едзе ў вагоне метро. Распаўнелае цела ніяк не хоча размяшчацца на сантыметрах, адведзеных на аднаго пасажыра, і таму гэта асоба займае два месцы. Заношаны сарафан сіне-шэрага колеру, рэшткі чырвонага манікюру на пазногцях з чорнай акантоўкай і даўно нямытыя валасы не дадаюць ёй ніякай чароўнасці. Сярод гэтай неахайнасці яркай плямай выдзяляюцца чыстыя, відаць, новенькія тапачкі, на якіх серабрыстымі літарамі блішчыць надпіс — «Сэкс лэдзі»...

* * *

Маці тэлефануе сыну:

— Што ты сёння еў?

— Ежу...

* * *

Аб'ява ў элітным доме: «Паважаныя ўласнікі! У апошні час пачасціліся выпадкі знікнення кветак, выстаўленых вашымі суседзямі ў ліфтавым холе для стварэння ўтульнасці. Вялікая просьба вярнуць кветкі, якія вы выпадкова палічылі за свае. Праўленне».

* * *

Дзядуля пытаецца ва ўнука, які малюе нешта ў альбоме:

— А што малюеш?

— Лісцікі.

— А лісцікі на дрэвах будуць расці?

— Не. Іх дзяўчынкі будуць у руках трымаць.

— А ў вас у дзіцячым садку дзяўчынкі ёсць?

— Ёсць.

— А яны табе падабаюцца?

— Падабаюцца, калі не кусаюцца.

— А ёсць што не кусаюцца?

Унук уважліва глядзіць на дзеда і ўздыхае:

— Дзед, ідзі пагуляй!..

* * *

— Гарык, ты зараз здзівішся, калі даведаешся, дзе я знаходжуся. Гатовы? Я на балеце!..

* * *

Кафэ «Капкан». Рэкламны лозунг абвяшчае: «Хто зойдзе — той не забудзе...»

*г. Мінск.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Рыгора МАЁРАНКІ (Украіна).




# ЛІСТ «ЦЫВІЛІЗАТАРУ»

## АД КАЛГАСНІКА МІКОЛЫ ДРАЗДА

*«Я пабываў у Беларусі. Тутэйшая зямля робіць уражанне пустыні. Людзі – панурыя, маўклівыя, жывуць некультурна, у зямлянках, як пяшчэрныя дзікуны. Гэтую краіну нам трэба цывілізаваць».*

*(З артыкула амерыканскага журналіста Габсона.)*

Прачыталі мне допіс ваш, містэр Габсон.
Я падумаў:
Ці трызніць вар'ят,
Ці мо' гэта агіднейшы сон?
Праўда, нам давялося сустрэцца:
Запрасіў вас пагрэцца.
Бачу, вас такі здорава парастрасала.
Чым багаты, тым рады:
Смятану паставіў і сала.
Вы-ж мяне не спыталі:
Як жыву, як займаюся працаю,
А ўсё нюхалі, мацалі,
Па закутках нос тыцкалі.
Рэчы пальцамі пэцкалі.
Разбірала злосць:
Што за дзікі госць!
Калі-б вы запыталі,
Мы-б вам шмат расказалі:
Як нямецкія танкі нашы нівы тапталі,
Як увесь наш нажытак
Праглынула драпежнае войска,
Як спалілі мы ўласнае жыта
І як немцы спалілі усе нашы вёскі,
Як знішчаў я
Нягоднікаў гэткіх, як вы,
Як чакаў я
Прыходу братоў з Масквы...








– Майце на ўвазе: гэта кліент з радыёстанцыі «Свабодная Еўропа». У яго і грошы могуць быць фальшывымі.

А пасля у зямлянках жылі,
З берасцянак пілі,
Рук не шкадавалі,
Шчасце будавалі.
Бо мы зналі, савецкія людзі,
Што і хлеб, і прасторная хата ў нас будзе,
Бо мы гэта усё да вайны ужо мелі,
Хлеб калгасны пшанічны елі.
Мы хоць сёння і ў поце,
Але сэрцам чыстыя,
І цяжэй калі будзе –
То як-небудзь без вашае помачы выстаім.
Вам-жа, містэр, ні рук ні душы не адмыць
А ні ў якіх там ваннах, ніякай вадою.
Другі раз на парог не дапусцім вас мы,
Ад варот – паварот, ды нямецкай хадою!
Ад варот, што зрабіў ля свайго я цаглянага дома
Хай і гэта вам будзе вядома.
А калі, не дай бог,
Яшчэ раз сустрэцца нам прыдзецца,
На маўклівасць маю
Вам не прыдзецца больш ужо крыўдзіцца.
Павітаемся,
Запытаемся:
Колькі вы нахлусілі,
Колькі душ замуцілі,
Колькі грошай, падлюга, табе заплацілі?
А мажліва нічога не буду пытацца:
Іншы спосаб знайду прывітацца.



Запісаў Пімен ПАНЧАНКА.

*«Вожык», № 21,1947 г.*







*Неанацысцкія элементы ў ФРГ не спыняюць свае хуліганскія ўчынкі.*

*(З газет).*

Малюнак М. Жытніцкага.



# Навіны з МУС: матай на вус

## Пагуляў «у вайну»…

***Бярозаўскі раён.*** Усе хлопчыкі (і нават асобныя дзяўчынкі) гулялі ў дзяцінстве «ў вайну». Некаторыя ж людзі працягваюць так забаўляцца нават у сталым узросце.

Так, жыхар вёскі Парослава знайшоў каля авіяцыйнага палігона дзевяць авіябомбаў і вырашыў пагуляць «у вайну» са... зборшчыкам лому. Прывёз да яго снарады-муляжы, але той узгадваць гульні маленства наадрэз адмовіўся. Тады мужчына проста выкінуў набытак у кювет побач з аўтадарогай, дзе яго і знайшлі супрацоўнікі міліцыі. Гульні скончыліся...

## Няўжо мушкецёры?

***Гомельская вобласць.*** Ёсць крадзяжы буйныя, дробныя, «прафесійныя», на п'яную галаву, з-за нейкай крыўды ці зайздрасці... А вось крадзеж пяці курыц і трох пеўняў з куратніка жыхаркі вёскі Чырвоны Бераг адразу і не патлумачыш.

Кажуць, што на месцы здарэння міліцыянеры знайшлі чатыры пяры. Помніцца, капелюшы з пёрамі некалі насілі мушкецёры. Дык няўжо яны перакваліфікаваліся ў злодзеяў? Следства працягваецца...

## Шкарпэткі — лепш!

***Навагрудскі раён.*** Хутка прыйдуць халады, і кожны рыхтуецца да іх па-свойму. Можна ўцяпліць хату, набыць цёплае футра ці валёнкі, навязаць шкарпэтак з шэрсці... Жыхар горада Бярозаўка Лідскага раёна вырашыў гэта пытанне іншым спосабам. Для таго, каб сагрэцца асеннімі вечарамі, ён вырашыў... гнаць самагонку на сваёй дачы ў вёсцы Астроўна.

Такі спосаб сагравання супрацоўнікі ППСМ Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама назвалі незаконным і знішчылі пяць тысяч літраў брагі і самагонны апарат. Усё ж лепш было жыхару Бярозаўкі вязаць шкарпэткі на зіму.



## Чалавек-станожка

***Гродна.*** У Галівудзе заўсёды любілі здымаць фільмы пра людзей, якія валодаюць звышчалавечымі здольнасцямі. Памятаеце ўсякіх халкаў, жалезных чалавекаў, расамах, чалавекаў-павукоў? Але хіба ўсе яны могуць параўнацца з нашым супергероем — чалавекам-станожкай!

У яго на кватэры міліцыянеры выявілі рознага імпартнага абутку ажно на 205 мільёнаў рублёў. Праўда, усе туфлі і пантофлі былі неўзабаве канфіскаваны, бо неабходных дакументаў на абутак у нашага супергероя не адшукалася. І ўсё ж хочацца верыць, што ён не будзе хадзіць босым.



## Наганяй з-за «Нагана»

***Бярозаўскі раён.*** Калі чалавек выпівае лішку, ён можа страціць і сумленне, і розум, і гонар, і шмат чаго іншага. А вось мясцовы вадзіцель-паштальён згубіў службовы «Наган» з сямю патронамі.

У ходзе праверкі высветлілася, што перад тым, як пасеяць рэвальвер, паштальён напіўся. А калі заўважыў, што страціў зброю, то... зноў напіўся, з гора. Але супрацоўнікі Бярозаўскага РУУС не лыкам шытыя і нават у такой «п'янай» сітуацыі змаглі выявіць, дзе быў згублены «Наган».

Дакладна невядома, што сталася з гэтым нядбайным паштальёнам, але свой наганяй ён напэўна атрымаў.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

## ВЯСЁЛЫ СЛОЎНІК

- Банка — супрацоўніца банка.
- Банкрут — завадатар банды.
- Байкот — спячы кот.
- Варштат — работнікі кухні.
- Водпуск — вадзяная помпа.
- Валяр'яна — сварлівая жанчына.
- Картуз — галоўная ігральная карта.
- Прайдзісвет — турыст.
- Стукач — дзяцел.
- Стрыж — цырульнік.
- Шашаль — ігрок у шашкі.

**Даслаў Уладзімір ШПАДАРУК,**
*г. Рагачоў.*



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.








*Яўген МАРТЫНОВІЧ — чалавек малады і несумненна цікавы. Нарадзіўся ў Мінску, затым жыў з бацькамі на Далёкім Усходзе ў ваенным гарнізоне. Любаваўся там задумлівымі сопкамі, даляглядамі праліваў, акіянам тайгі... Асабліва ж грукала сэрца шасцігадовага хлопчыка, калі ён бачыў самалёты (бацька — спецыяліст па сувязі; цяпер капітан у запасе). А калі бацька ўпершыню пусціў сына ў кабіну самалёта, той ледзь не страціў прытомнасць ад радасці!..*

*Падчас вучобы ў школе хлапчука вабілі дзве «стыхіі» — гітара і кнігі. «Гітара, — як прызнаецца Яўген, — гэта асобная размова. Мне яе падарыў дзядзька з Гомеля на восьмы дзень нараджэння. Што я толькі з ёй не рабіў! Але гітара даравала мне ўсё! Вучыцца іграць на ёй «прафесійна» я пачаў толькі з дзесяці гадоў. Маці ўбачыла маю ўпартасць у гэтай справе і аддала ў музычную школу». З літаратуры юнак любіць чытаць і перачытваць Чэхава, Караткевіча, Чапэка, Хемінгуэя... А яшчэ любіць вандраваць, гатаваць ежу, катацца на веласіпедзе, збіраць грыбы і ягады, вывучаць геаграфічныя карты і ката Міхея.*

*«Пах свабоды» Яўген адчуў ва ўніверсітэце (скончыў БДПУ імя Максіма Танка). Там ён знайшоў сапраўдных сяброў, з якімі стварыў рок-бэнд пад назвай «Дранікі» (свой стыль музыканты акрэслілі як «бульба-трэш-рок»). Ігралі на ўсіх культурных мерапрыемствах — ад вяселляў сяброў да юбілеяў выкладчыкаў!..*

*А ў 2007 годзе Я. Мартыновіч зноў... пайшоў у школу. Толькі ўжо не вучнем, а настаўнікам. Вучыць дзетак іграць на сваім любімым музычным інструменце — гітары. І паспявае вучыцца сам: летась паступіў у БДУ на факультэт павышэння кваліфікацыі па спецыяльнасці «літаратурна-мастацкая творчасць».*

*Сёння Яўгена можна павіншаваць яшчэ і з першай публікацыяй у часопісе «Вожык». Спадзяёмся, што ён стане нашым пастаянным і цікавым аўтарам!*

**Яўген МАРТЫНОВІЧ**

*Байка ў прозе*



# Гісторыя ката Міша

Жыў-быў у адной вёсцы кот. Кот як кот, звалі яго Міш, і любіў ён вечарыну збіраць. Сядуць кампаніяй местачковых братоў-катоў, павячэраюць селядцом «Матыяс» пад чарку валар'яны ды як зацягнуць сваю каціную песню на ўсе Гузікавічы! А што яшчэ рабіць?

— Як кажуць французскія каты: се ля ві! — любіў паўтараць наш вусаты герой. Маўляў, такое наша кацінае жыццё-быццё.

Меў яшчэ кот Міш адну асаблівасць: надта ж гнуткі быў і вёрткі. Такія «сальта мартале» вырабляў — закачаешся! Яму нават мянушку далі «Акрабат». І ўсе каты зайздросцілі белай зайздрасцю, калі Міш паказваў свае выкрунтасы, а коткі аж млелі ад ягоных доўгіх цёмных вусоў.

Адна з котак нават была згодная на шлюб, аднак Міш не спяшаўся. Хто яна такая? Не ангорка і не сіямка. Хоць бы ў кватэры жыла, на канапе гадавалася, а то на сенавале нарадзілася, без асаблівых манер і, пэўна, з блыхамі не ўсё ў парадку.

Кот Міш даўно марыў прабіцца ў вялікі свет, дасягнуць значных поспехаў, каб гуляць потым па якім-небудзь Брадвеі ці катацца на белым «Ролс-Ройсе» з коткамі-фотамадэлямі. Час ішоў, і трэба было даўно зрабіць першы крок да ажыццяўлення сваёй мары. Але то надыходзіў сакавік і трэба было спяваць адвечныя каціныя песні, то сябры прыносілі свежай валяр'яны... І мары заставаліся марамі. Міш адчуваў, што далей так жыць нельга.

Аднойчы ж у горад наведаўся котмайстар Хахмацэвіч, каб знайсці таленты. Міш даведаўся пра гэта і паехаў на кастынг. Адстаяў вялізную чаргу і паказаў на сцэне ўсё, што ўмеў. Хахмацэвіч ад здзіўлення ўскінуў адно брыво. А калі Міш паказаў такія шалёныя падскокі, што свет не бачыў, котмайстар закрычаў: «Брава! Брава!» Міш толькі сціпла адводзіў вочы ў бок.

Хахмацэвіч адразу ўключыў кандыдатуру Міша ў асноўную трупу. І пайшло-паехала: гастролі па ўсім свеце, фотасесіі для «Плэйката», вячэрнія кактэйлі са знакамітасцямі... Поспех закружыў Мішу галаву! І ўсё ж час ад часу ён узгадваў родную вёску, братоў-катоў і котку, якая была згодна выйсці за яго замуж.


Працяг на стар. 15.




# СЛАВУТЫ ПЯСНЯР І СЛАВУТЫ ГУМАРЫСТ

### ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

Ёсць на стаўбцоўскай зямлі вёска Акінчыцы. Калі ўнікаць у этымалогію гэтай назвы, дык можна згадваць і словы «акно», і «акінуць». Можа, гэта і сапраўды акно ў свет, якое адчыніў для сябе калісьці славуты пясняр **Якуб КОЛАС** (1882 – 1956), які тут нарадзіўся. З Коласам было цяжка спаборнічаць у гумары, ніхто гэтага ніколі і не рабіў. Мы не будзем пералічваць усё тое, што стварыў Канстанцін Міхайлавіч за многія гады жыцця і творчасці, скажам толькі, што пасмяяўся ён здаровым сялянскім смехам уволю і кожнае новае пакаленне змушае да гэтага. Тут які жанр ні вазьмі, да яго абавязкова прыклаўся сваім пяром і Колас. Колькі ж яго, іскрыстага, сонечнага, сапраўды народнага гумару рассыпана ў славутай «Новай зямлі»! Цяжка ўстрымацца, каб не прывесці хоць колькі радкоў. Адразу прыходзіць на памяць раздзел «Дзядзька ў Вільні»:

*Ідзе наш дзядзька і па бруку*
*Адзін за дзесяць робіць груку.*
*А дзе ж той банк? – карціць пытанне.*
*Так правандрueш да змяркання.*
*......................................*
*Ды перабраў тут дзядзька меру:*
*На слуп узбіўся, на халеру,*
*Ды так аб падлу штурхануўся,*
*Што свет яму перавярнуўся,*
*На брук зляцеў ён з тратуару,*
*Перакруціўся разоў пару*
*І так у брук бядак загасіў,*
*Што чуць манеркі не расквасіў.*

Коласаўскі гумар, як і гумар наогул беларускі, – багацце бяздоннае.

Відаць, нездарма менавіта кнігай апавяданняў Я. Коласа «Дзядзькаў сведка» і распачаўся ў 1957 годзе выхад Бібліятэкі часопіса «Вожык». Пазней выйшла кніга гумарыстычных вершаў «Асадзі назад» (1972).



1982 г.

– Вось аб такой новай зямлі на прасторах жыцця я марыў.

Малюнак В. САЛАЎЁВА.

А сёння, адзначаючы 130-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа, мы (разам з сынам пісьменніка Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам) прыгадаем некаторыя эпізоды з яго жыцця, якія дадаюць шмат цікавых і часам нечаканых рысаў да партрэта славутага песняра нашай зямлі.

**Міхась МІЦКЕВІЧ**

## СМЯШЫНКІ З КОЛАСАВАЙ ХАТЫ

*(З прыпамінаў сына песняра)*

### Хто «фуліган»?

У хату Якуба Коласа завітаў настаўнік са школы, дзе вучыўся сярэдні сын паэта Юрка, з прэтэнзіяй, што малы спявае ў школе хуліганскія песні. Дома такіх песень ніхто не спяваў. Сталі распытвацца, а што за песні. Аказваецца: «Дайте мне за рупь с полтиной девицу с огнём». Магчыма, хлопчык не разумеў сэнсу гэтай песні, але яна яму спадабалася. Дзе ж ён чуў яе? Сталі разбірацца, узгадваць: дык гэта ж Янка Купала напяваў яе, калі гуляў у шахматы з Коласам! І пачутае ад народнага паэта хлопчык адважна панёс «у народ».

### Розыгрыш

Меншы сын Коласа, Міхась, пазнаёміўся з дачкою Янкі Маўра Наташай у Маскоўскім авіяцыйным інстытуце, дзе яны вучыліся. Дзяўчына забыла ў Мінску свой пропуск, а інстытут быў рэжымны. Жонка Максіма Лужаніна даручыла Міхасю, каб той перадаў яго Фёдаравай. З фотаздымка пазіраглядала прыгожая паўнашчокая дзяўчына, з якой было цікава пазнаёміцца. Знайсці групу было нескладана, але калі на запытанне, ці ёсць Фёдарава, выйшла худзенькая дзяўчына, не падобная на тую, што на здымку, хлопец нічога лепшага не прыдумаў, як ляпнуць: «А на фота вы прыгажэйшая!» Відаць, гэта моцна закранула самалюбства дзяўчыны, бо іншы раз яна дэманстратыўна рабіла выгляд, што не заўважае крыўдзіцеля. Але давялося сустракацца ў сталоўцы, бібліятэцы...

А восенню вырашылі пажаніцца. Як паведаміць бацькам? У Коласавым доме часта адбываліся розыгрышы, якія ладзілі старэйшыя браты. Дык што, меншаму адставаць? І ён прапаноўвае сваёй выбранніцы пазваніць у Мінск бацьку, каб той павіншаваў Коласа з жаніцьбай сына, а сам пазвоніць свайму бацьку, каб той павіншаваў Янку Маўра з нагоды шлюбу дачкі. Калі дзяўчына перадала «даручэнне» Маўру, той адразу запытаўся: «А на кім жа ён жэніцца, калі ўлетку часта заходзіў да цябе?» І яна прызналася, але свайму нарачонаму не сказала. Колас, як чалавек абавязковы, выканаў просьбу сына. Сустрэўшыся з Янкам Маўрам, павіншаваў яго. Не падазраючы таго, што Колас не ў курсе справы, той запытаў: «Дык што мы будзем рабіць?» А Колас яму адказвае: «Што хочаш, тое і рабі. А мне якое дзела?» У Маўра ад нечаканасці сківаці адвіслі. Прыйшоў ён дахаты і расказаў жонцы. Тая ў плач: «Колас не хоча, каб нашы дзеці параднілся!» І хацела ісці разбірацца, што здарылася. Але пайшоў Янка Маўр. Хатняя гаспадыня Коласа, Марыя Георгіеўна, убачыўшы Янку Маўра, запыталася: «А за каго ж выходзіць Наташа, ці не за нашага Міхаська?» – «А вы што, не ведалі?» Бедны Колас! Як гэта яму не паведамілі? Так нечакана? Старыя знаёмыя крыху выпілі, пасядзелі, а праз дзень бацька прыехаў да маладых у Маскву. Ён дастаў бутэльку наліўкі і сказаў: «Ну, нявестка, накрывай стол!»

## «Усё роўна ўнукі будуць мае!»

Да сямідзесяцігоддзя народнага паэта згодна з пастановаю ўрада яму пабудавалі двухпавярховы дом. На першым паверсе размясціліся сыны з сем'ямі ў пакоях насупраць. Праз шкляныя дзверы добра было відаць, што там адбываецца.

Неяк жонка старэйшага сына пасварылася са сваім мужам. Меншы сын супакойваў яе ў сваім пакоі. А ў пакойчыку старэйшага жонка меншага гутарыла з ім. Зайшоў Колас, глянуў налева, глянуў направа — чорт ведае, што такое! Паблыталі, ці што, сыны жонак? Махнуў рукою і сказаў: «Усё роўна ўнукі будуць мае!»



## Нарзан

Якуб Колас рэдка ездзіў на курорты, аддаючы перавагу родным прасторам. Канешне, стан яго здароўя вымушаў лячыцца — заробленая яшчэ ў турме язва страўніка пастаянна даймала. Адна ж з паездак у Кіславодск закончылася трагічна: у дарозе праз акно выцягнулі чамадан з рукапісам паэмы «Сымон-музыка». Колас закончыў яе другую рэдакцыю ў Кіславодску. Янка Купала кожны год ездзіў на курорты — Есентукі, Пяцігорск. Аднойчы яны пасля камандзіроўкі ў Тбілісі на святы выкарысталі магчымасць падлячыцца ў Цхалтуба. У Янкі Купалы была паніжаная кіслотнасць, у Коласа — павышаная. Але лячэнне, працэдуры ім прызначылі чамусьці аднолькавыя. І гэта выклікала ў Коласа пэўны скепсіс. А крыху пазней рускі паэт і перакладчык Сяргей Гарадзецкі пісаў Коласу: «Трэба мець моцнае здароўе, каб вылечыцца ў Цхалтуба». Але ж Купала падлечваўся і папраўляўся някепска, а да канца года страчваў, што назапашваў на курорце. З гэтай нагоды Колас адгукнуўся эпіграмным вершам:

*Абмыецца Янка ў нарзане,*
*Здаровы прыедзе, як бык,*
*Гарэлку ж піць Янка не стане,*
*Дык з'едзе наш Янка на пшык.*
*Зноў возьме наш Янка пуцёўку,*
*Стралою махне на курорт,*
*Бо Янка наш мае галоўку,*
*Бо Янка наш хітры, як чорт.*

***

*Абмыецца наш Янка ў нарзане,*
*Здаровы прыедзе, як бык...*

Колас зачытаў гэты верш сваім сабратам па пяру, але прачытаць яго паплечніку, свайму другу не адважыўся, каб той часам не пакрыўдзіўся. І ўсё ж Янка пакрыўдзіўся, калі яму гэты верш пераказаў Алесь Дудар: чаму Колас сам не прачытаў яму? Яны ж пастаянна чыталі адзін аднаму свае вершы. І гэта тым больш, што эпіграма спадабалася — бясконцыя вершы сустракаюцца надзвычай рэдка.

## Пяро — паэту

У адзін з дзён нараджэння Колас паклікаў сваіх блізкіх сяброў. Сабралася чалавек дзесяць, пазніўся Пятро Глебка. Гэту яго рысу бацька ведаў, і таму селі за вячэру без Пятра Фёдаравіча. Прагучалі тосты, кульнулі колькі чарак... І тут з'явіўся Глебка. Міхась Лынькоў адразу выгукнуў: «Штрафную яму, штрафную!» Ухапіўшы бутэльку, стаў шукаць што-небудзь больш ёмкае, чым чарка. На вочы папаўся кубачак, які стаяў на падаконніку, і Лынькоў, напоўніўшы яго, стаў прыспешваць Глебку. Той выпіў і... раптам з жахам дастае нешта жалезнае з рота. Пяро? Колас непрыгодныя пёры кідаў у кубак. Усе разгагаталіся, а нехта заўважыў: «Паэту і пяро ў зубы!»

## Неспадзяваная аква

Старэйшы сын Якуба Коласа Даніла пэўны час працаваў у Інстытуце арганічнай хіміі нашай Акадэміі навук. Ён добра ведаў усіх навукоўцаў як спецыялістаў, ведаў іх схільнасці, з многімі сябраваў. Іншы раз на рабоце затрымліваліся надоўга, а каб зняць стомленасць, крыху расслабляліся. Зрэдку Даніла наведваў сяброў, калі ўжо не працаваў у інстытуце і, вядома, не абыходзілася без чаркі. Ці сам прыносіў што-небудзь, ці частавалі тыя: спірту хапала.

Аднойчы ён зайшоў пазнавата. У вокнах гарэла святло, працаваў толькі адзін аспірант — Валодзя А. За тры гады падрыхтаваць дысертацыю надзвычай цяжка. Трэба выкарыстоўваць і доўгія вечары, і дні адпачынку. Валодзя паважліва пасадзіў госця на крэсла і здзівіўся: «Што прывяло так позна?» А Даніла, не спяшаючыся, дастае з партфеля пустую літровую бутэльку і кажа: «Трэба наліць...» — «Што вы, што вы, я магу знайсці толькі грам сто пяцьдзесят... — не даў дагаварыць аспірант. — Больш няма!..» А Даніла, хаваючы ўсмешку, кажа: «Але мне трэба літр аквы дыстылятум — для акумулятара...»



## «Здраднік»

Жонка малодшага сына Якуба Коласа вярталася з заняткаў, якія праводзіла ў політэхнічным інстытуце. Ужо сцямнела, церусіў дробны асенні дожджык, было ціха. Абыходзячы корпус Акадэміі навук, яна заўважыла пад вокнамі лабараторыі, дзе працаваў муж, постаць мужчыны, які абдымаў і цалаваў нейкую дзяўчыну. Падыходзячы бліжэй, яна пазнала свайго мужа. Яго паліто, капялюш, а калі стала падыходзіць бліжэй, той крыху развярнуўся, каб не было відаць яго твару. Пачуццё рэўнасці, горычы ахапіла яе. «Ну, хай толькі прыйдзе дадому!.. Я яму пакажу, здрадніку!» Дадому было зусім блізка, і яна злосная-злосная ўляцела ў хату. Толькі адчыніла дзверы і абамлела: муж сядзеў на канапе і чытаў газету. Як ён паспеў? Але ж, агледзеўшыся, убачыла, што ён у хатняй адзежыне. Як жа так: толькі што цалаваў нейкую дзеўку? Сама бачыла! І ўсё расказала мужу, а той пасмяяўся і сказаў: «Калі ты мяне яшчэ раз убачыш у такой сітуацыі, то лічы, што гэта не я».



*«Вожык», № 2–6, 2008 год.*



Вернісаж

# Алег КАРПОВІЧ



☺ – Карыкатура – сур'ёзны жанр?

– Калі хочаце, самы сур'ёзны!




☺ – Колькі часу працуеце над малюнкам?

– У мяне прафесія такая – рабіць малюнак да таго часу, пакуль ён не набудзе якасць, прыдатную для друку. Гэта як для сталяра – змайстраваць табурэт, каб на ім людзі маглі сядзець.

☺– На вас як на творцу не ціснe журналісцкая руціна?

– Ну, можа, і ціснe. Але ж гэта мой хлеб. І, між іншым, мая мара з дзяцінства – працаваць у газеце.














☺ – А ў сусветным мастацтве для вас ёсць безумоўныя аўтарытэты?

– Кукрыніксы, Анарэ Дам'е... Здавалася б, мінулае, пазамінулае стагоддзі, а ў прынцыпе нічога не мяняецца...

☺ – За вашы карыкатуры або шаржы людзі калі-небудзь на вас сур'ёзна крыўдзіліся?

– Больш дзякавалі, чым крыўдзіліся. Аднойчы нават укралі адзін малюнак з выставы сяброўскіх шаржаў, так спадабаўся.

*З інтэрв'ю «Смяяцца – і быць аднадумцамі!» («Настаўніцкая газета», 5 мая 2012 года).*











Малюнак Алега ПАПОВА.

## Лёля БАГДАНОВІЧ

### Хітры сусед



Суседу зноўку нешта трэба –
Прыйшоў у хату нездарма.
Пазычыць хлеба і да хлеба?
«Не, харчу для цябе няма!»

А ён жа толькі усміхнецца,
Адкажа, нібы незнарок:
«Ты б лепш пазычыла мне сэрца,
Бо прападу я, далібог!»

Ох, долечка мая такая,
Што прысуседзіўся такі:
Заўжды па восені кахае,
Як трэба выбраць буракі!

*г. Барысаў.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## Юрась НЕРАТОК

### Восеньскае



Часінай сумнай
Яе сустрэў.
Ляціць няшумна
Лістота з дрэў.



Крыштальны позірк.
Павольнасць дзён.
Змяніўся козыр –
Чарговы кон.

Трыліснік клёну,
Счарнелы хвошч.
Замест праклёну –
Калючы дождж.



Пануры глянец
Імжыстых сноў.
Марудны танец
Гучыць ізноў.

Прасуе вецер
Бязмэтны шлях.
Намоклым смеццем –
Смуга ў грудзях.

Чакаць ці варта
Прылёту муз?
Трэфовай картай
Пабіты туз.

*г. Мінск.*








Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Ды і Хахмацэвіч стаў нейкім іншым. Цяпер ад яго добрага слова не пачуеш, рэпетыцый і выступленняў — усё больш, а ганарараў — усё менш.

Урэшце бясконцыя гастролі стамілі ката Міша. Ён адчуў, што з яго (як і з іншых артыстаў) выціскаюць апошнія сокі. Ды хіба можна так эксплуатаваць бедных артыстаў! У Міша нават быў сур'ёзны намер паскардзіцца ў Арганізацыю Аб'яднаных Каціных Нацый...

— Ты што, Міш, валяр'яны абапіўся? — закрычаў на ката Хахмацэвіч, калі Міш у адным буйным еўрапейскім горадзе паспрабаваў адстойваць свае правы. — Дзе твая ўдзячнасць за маю дабрыню?! Ах ты пачварына вусатая! Я цябе з глушы выцягнуў, ледзь блых вывеў, а ты!... Кім бы ты сёння быў у сваіх Гузікавічах? Спітым валяр'янагалікам?..

«Не, мне такое жыццё не трэба! Не пра гэта я марыў, — падумаў Міш, гледзячы на істэрыку свайго шэфа. — Марыянеткай у руках котмайстра я не буду».

— Глядзі, ты мой кот! — размахваў у яго перад носам нейкай паперчынай Хахмацэвіч. — Ты падпісаў кантракт на сямнаццаць гадоў!

— Каты столькі не жывуць! — толькі і змог адказаць Міш...

Той жа ноччу кот Міш падаўся ўпрочкі. Яго шукала паліцыя, выклікалі нават гвардыю, але ўсё дарэмна: на дапамогу Мішу прыйшлі мясцовыя бяздомныя каты і дапамаглі схавацца.

Шмат дарог давялося прайсці Мішу, не адну дзяржаўную мяжу перайсці, не раз глядзеў ён смерці ў вочы на аўтадарогах, але ўсё ж пашчасціла яму вярнуцца ў родныя Гузікавічы!

Сябры не адразу пазналі Міша. Вельмі ж ён схуднеў: адны вусы ды рэбры тырчаць. Толькі ўсмешка засталася ранейшай.

— Міш, ці ты гэта? — абкружылі яго каты-браты.

— Я, — уздыхнуў Міш. — І не я...

— Што з табой здарылася?

— Няма нічога даражэйшага за радзіму і за старых верных сяброў! — адказаў Міш і ад шчасця зажмурыўся, нібы яму ў кожнае вока па сонейку засвяціла.

Больш у яго сябры нічога не пыталіся. І так усё зразумела... Падышла да Міша і котка, якая некалі была ў яго закаханая. Час змяніў яе таксама. І поўсць не блішчэла, і вочы, калісь такія вялікія, прыгожага зеленаватага адцення, зрабіліся сумнымі і нібы выцвілымі....

— Мой ты коцік, даражэнькі, — прамуркала котка. — Дзе ты быў? Я цябе столькі чакала...

Міш толькі прачула яўкнуў.

— Урэшце я выйшла замуж. І не раз... — спавядалася котка. — Кожную вясну я ўспаміныла цябе...

І тут Міш не вытрымаў і заплакаў. (Каты таксама ўмеюць плакаць. Хіба вы не ведалі?)

— Даруй мне ўсё! Я быў малады і дурны... — сказаў Міш. — І сваё шчасце згубіў, і тваё змарнаваў. І толькі цяпер зразумеў, як я цябе кахаю! Ты мая адзіная! Я больш нікуды ад цябе не ўцяку...

І сталі яны жыць, як раней, толькі больш шчасліва. Неўзабаве ў іх нарадзіліся дзеткі... Мабыць, у гэтым і быў сэнс іх каціннага жыцця — сям'я, а таксама верныя сябры. І толькі часам Міш успамінае былое і, нюхнуўшы валяр'яны, паказвае свой каронны нумар — падскок з пераваротам у паветры...






Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК**




Аўтандзіл Гаршванія лічыўся сярод жыхароў Гарэліч сваім хлопцам, хоць нарадзіўся і быў узгадаваны на зямлі далёкай Грузіі. Яшчэ ў часы вялікага Саюза Аўцік трапіў на тэрміновую службу ў Беларусь, прыгледзеў мясцовую бялявую прыгажуню, ажаніўся і пусціў карані. Спачатку працаваў у калгасе механізатарам (танкіст жа!), а калі гаспадарка пачала «згасаць», зрабіўся «аднаасобнікам» — паспрабаваў карміць сябе, жонку і пяцярых дзетак, спадзеючыся выключна на ўласныя рукі ды прысядзібныя соткі.

Паколькі гадаваўся Аўтандзіл ва ўмовах субтропікаў (няхай сабе і савецкіх), уяўленне аб агранаміі меў адпаведнае. Некалькі гадоў яго фермерскай практыкі было патрачана на тое, каб атрымаць на поўначы Беларусі ўраджай вінаграда (віно ціснуць), гваздзікоў (на продаж вазіць), персікаўабрыкосаў (на кірмашы гандляваць). Ад канчатковага краху Аўцікава прадпрыемства ратавалі карова-пярэсціха па мянушцы Суліко і некалькі парсюкоў, кожнага з якіх кармілі на працягу года і называлі Музафарам (гаспадар ніяк не мог забыцца на свайго камандзіра аддзялення). Дарэчы, і Суліко, і Музафары знаходзіліся пад пільным наглядам гаспадыні, а Аўтандзіл увесь час думаў аб магчымых шляхах развіцця гаспадаркі...

Аднойчы яму пашанцавала. Седзячы на лаўцы з суседам Петрусём за чарговай «прымінай», Аўцік заўважыў, як суседава жонка з годнасцю прынесла з куратніка ў хату ладны кошык яек.

— Вах! Што за цуд, дарагой? Што за куры такой асобенный? — здзівіўся Аўцік.

Варта зазначыць, што раней Аўтандзіл Гаршванія, як і ягоныя продкі, на гэтую псеўдаптушку (не арол жа на самай справе!) увагі не звяртаў.

— Які там цуд? Звычайныя куры. Толькі прапорцыю трэба вытрымліваць: на шэсць курэй — адзін певень. Тады і нясуцца чубаткі, што з кулямёта.

Пачуўшы такое, Аўцік доўга і горача ўгаворваў суседа пад'ехаць разам з ім у нядзелю на кірмаш, каб граматна падабраць куранят, у той самай прапорцыі. Свае ўгаворы ён шчодра падмацоўваў гасцінцам з вінаграднікаў Грузіі, некалькі каністраў якога нядаўна прыцёг з сонечнай Грузіі. І ўжо не зусім упэўнена выгаворваючы словы, сусед Пятрок павучаў Аўціка:

— Калі возьмеш у рукі куранятка, дык перакулі і кладзі на спінку, а затым глядзі, як яно пераварочвацца будзе. Пеўнікі — па-свойму, а курачкі — па-другому. Зразумеў?

— Зразумеў, дарагой! — адказваў Аўтандзіл ды ўсё падліваў госцю (сябе ён таксама не крыўдзіў)...

З ранку ў нядзелю сябры-суседзі накіраваліся да аўтобуснага прыпынку. Пад мешкавінай у вялікім кошыку, што нёс Аўтандзіл, нешта падазрона булькала. Сапраўды, чаго сумаваць у дарозе?..

Калі сябры знайшлі ўрэшце сярод кірмашовага тлуму нейкую цётку са скрыняй, у якой папісквалі кураняты, рашуча накіраваліся да яе. Аўтандзіл, нават не пытаючыся цаны на тавар, весела праспяваў: «Мне патрэбныя васэмнаццаць курачак і тры пеўнікі!» Агледзіўшы пакупнікоў з ног да галавы, кабета буркнула: «Ну, дык і падбяры сам, што табе трэба!»

Аўцік аддаў здзіўленай гаспадыні заклад і адважна ўзяўся за адлоў куранят. Ён хвацка пераварочваў іх на спінкі і спачатку адбіраў тых, хто хуценька ўставаў на лапкі. Гэта, па іх сумесным з Петрыкам меркаванні, былі курачкі: ім трэба хутка бегаць, каб спажыву знаходзіць ды яйкі несці. Затым адабралі трох павольных куранят: гэта былі дакладна пеўні — няспешныя, разважлівыя. Такім чынам, увечары Аўцік прывёз дадому васямнаццаць куранят — згодна прапорцыі....

Праз два тыдні, жадаючы хоць неяк падтрымаць не вельмі ўстойлівы і вялікі бюджэт сваёй сям'і, Аўтандзіл з'ехаў на «шабашку». Зарабіў, вядома, менш, чым абяцалі, і нават менш, чым сам разлічваў, але ўсё ж... Вялікае спадзяванне меў гаспадар і на прыбытак ад продажу яек. Ён выразна ўяўляў сабе васямнаццаць маладзенькіх курачак, сярод якіх горда прагульваюцца тры прыгожыя пеўнікі, а таксама жонку, якая годна нясе кошык са свежымі яйкамі...

Цягнік спыніўся на мясцовай станцыі досвіткам. Аўтандзіл падхапіў свой «хурджын» і пашыбаваў па вільготнай ад расы сцежцы дахаты.

Гарэлічы сустрэлі яго нейкім надзвычай шматгалосым пеўневым кукарэканнем. Аўцік сам сабе падзівіўся з гэтых спеваў, але, падышоўшы неўзабаве да свайго двара, усё зразумеў. Каля плота стаяла, усміхаючыся, жонка, на двары нешта дзяўблі тры курачкі, а на плоце, на даху пуні, на яблынях і проста на зямлі, намагаючыся заглушыць адзін аднаго, ва ўсю моц кукарэкалі васямнаццаць маладых прыгожых пеўняў...

«Нешта мы з Пецькам, відаць, крыху пераблыталі», — крутнуў Аўтандзіл галавою і ад душы зарагатаў.

*г. Мінск.*







**Павел САКОВІЧ**




## Васіль Шырко

З «Белой вежы» ён культурна
Вымеў брак літаратурны.
У яго, як глянуць вокам,
Выбар твораў ёсць шырокі.
Быццам душ Шарко гаючы
Лье Шырко на нашы душы.

## Віктар Рэчыц

Віктар — значыць пераможца.
Тут усё навідавоку:
Піша рэчы смела, моцна,
Рые рэчышча глыбока!

## Лёля Багдановіч

Гэта Лёля, а не ляля.
Гульні з ёй не кожны водзіць,
Бо сама жартуе ўдала.
Гэта прозвішчу не шкодзіць:
Быў Максім — выдатны лірык,
А яна вось — наш сатырык!

## Жартоўны гурт «Смехаўё» (г. Любань)

Гурт жартоўны «Смехаўё»
Любіць гумар, любіць скварку.
І да скваркі, ё-маё,
А кіруе ім... Вы-скварка.
Дык запросім «Смехаўё»,
Пасмяёмся, ё-маё!

## Прызнанне













Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Мікола ШАБОВІЧ**




## Сяргей Давідовіч

Забыць яго няма падставы:
Куды ні глянь — паўсюль выставы.
Ён і ў паэзіі, прызнацца,
Гатоў штодзённа выстаўляцца.

## Міхась Пазнякоў

Рэгалій мае цэлы спіс,
Дзясятак сёмы размяняўшы.
Ён і паэт, і парадыст,
І старшыня, і мовазнаўца...

Хоць нарадзіўся не ў Сан-Паўла,
Але ж па метрыцы — сын Паўла.
Пазналі? Так! Абавязкова!
Хто ж не пазнае Пазнякова?

## Вадзім Спрынчан

Не рэдактар — проста золата.
Над маім трымціць радком.
Дзякуй богу, што не з молатам,
Дзякуй богу, не з сярпом.




Малюнак Алега ПАПОВА.




**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## ЛІЧЫЛКА



### Грыбы

У грыбы пайшлі сябры,
Шмат дарункаў у бары.
На палянцы сябрукоў
Сустракаў гурток грыбоў:

Вось абабак, махавік,
Сыраежка, баравік.
Падасінавік – фарсун,
Рыжык – рэдкі прыгажун.
І лісічка, і казляк,
І духмяны грузд-бяляк.
Адкажы хутчэй, не баўся,
Грыб табе які дастаўся?






Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## Загадкі

Сесці любіць на шчаку,
Пакружыць над вушкам.
Хоць вялікі ён піскун,
Ды сябруе з мушкай.

(Камар.)

Па-над лугам і ракой
Разлілося малако.
Хтосьці з белай барадою
Нас частуе сырадоем.

(Туман.)

Хлопчыка імя хоць носіць,
Ды цукерак ўсё ж не просіць.
Ён расце улетку
Ў жыце на палетку.
Сіні, гожы матылёк,
І відаць усім здалёк.

(Васілёк.)

Па-майстэрску футра сшыў,
А іголкі ў ім – забыў.

(Вожык.)

*г. Клецк.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася КАВАЛЁВА.

Знайдзіце цацку, якую сястрычка падмяніла ў шафе.
Тое, што было там раней, намалявана вакол карцінкі.



Моцныя сябрукі



















Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Альдона НАЎЧАНКОВА**

## Гусі

У гусей пыталі дзеці:
– Што дзе робіцца на свеце?
Дзе былі вы, дзе хадзілі?
– Мы на рэчцы лапы мылі.

– Што пілі вы і што елі?
– Часу вельмі мала мелі.
Скублі траўку за ракой,
Мылі пер'е мы расой.

Ды па сцежачцы знаёмай
Зноў вярнуліся дадому.
Дайце есці, калі ласка,
Вам гусак раскажа казку.

Расказаў гусак, што бачыў.
Цэлы дзень гусак рыбачыў.
Нахадзіўся, натаптаўся,
А на рэчцы не застаўся.

Быў у гусак ён важатым
І прывёў усіх дахаты.



## Унучка

У маёй унучкі – залатыя ручкі:
І спаднічкі шые, і шкарпэткі мые.
А гадоў ёй будзе толькі пяць улетку.
Як жа любяць людзі маю ружу-кветку!..
Ў першы клас за ручку павяду унучку.

### Анекдоцік

– Мама, а якое будзе заўтра надвор'е?
– А гэта, сынок, залежыць ад сіноптыкаў.




## Марш па хатах!



Як збяруцца жанчыны,
Ну хоць дзве, ну хоць тры,
Плёткам знойдуць прычыну,
Зладзяць сход на двары!

– Кажуць, сын да Ігната
Зноў здалёку ляціць.
Малады ды багаты,
Вось бы тут ажаніць!

– Ну, манюка ты, Зіна!
Дзе заўчора была?
Зноў да Яся хадзіла,
Што пагляд адвяла?

– Вунь, зірніце, Мікіта
Зранку ў прымы паўзе...
Ды ката да Уліты
Разам з пеўнем нясе.

– Ты глядзі, колькі пыхі!
Маладзён! Багацей!
Ўчора, кажуць, ледзь дыхаў,
А жаніцца – хацеў!..

Досыць, досыць, жанчыны,
Досыць плёткі пладзіць!
Бы з дзіравай аўчыны,
З іх кажух – не пашыць!

Недзе ж румзаюць дзеткі,
Недзе ў печы гарыць...
Марш па хатах, суседкі!
Марш абеды варыць!

**Вольга САКАЛОВА,**
*г. Мінск.*

## ПІЛЬНАЯ САРОКА

*Байка*

Сарока чутак назбірала,
Суседзям іх расказваць стала.
Найперш Вавёрку разбудзіла,
Ёй тайну важную адкрыла:
«Купіў нядаўна Заяц дачу,
Пра гэта чула ты, няйначай.
І на якія ж гэта сродкі?» –
Гучаць пагрозлівыя ноткі.
Вавёрка ж толькі пазяхнула
І ў домік хуценька нырнула.
Ёй спраў заўжды сваіх хапала,
Сарока ж працы замінала.
Яна звярнулася да Дзятла –
Той працаваў ужо заўзята.
Сароку ўсё ж такі паслухаў,
Хоць без увагі, на паўвуха.
«Была на гэты конт размова, –
Сказаў урач лясны сурова.
Ён не любіў намёкаў, плётак
Ні бліжніх, ні далёкіх цётак. –
Узяў крэдыт той самы Заяц,
Цяпер рабіць усім так раяць.
І не рабі ты марна крыку:
Павінен ён аддаць пазыку!»

***

Ёсць надта пільныя сарокі,
Якія любяць чуткі, склокі
І лічаць, што ў чужой кішэні
Ляжаць вялікіх грошай жмені.

**Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міколы НАВАРЫЧА.

# З народнага

***Беларускія народныя казкі***

## Надакучлівыя госці




ЫЛІ два браты. Гаспадарку мелі невялікую, ды сяк-так кідаліся.

Прыехалі да іх аднойчы госці: два гультаі-гулякі, аднаго поля ягады. Прынялі браты гасцей, як трэба: пачаставалі, чым мелі, павесяліліся, як умелі.

Тым часам мінае дзень, мінае другі, тыдзень мінае, а госці і не думаюць дамоў выбірацца: п'юць, гуляюць ды яшчэ і гаспадароў ад работы адрываюць.

Надакучылі госці братам. Пачалі яны думаць, як ад іх пазбавіцца.

Думалі, думалі, нарэшце дадумаліся. Пайшлі малаціць, а там слова за слова давай сварыцца, каб госці чулі.

Меншы брат крычыць на большага:

– Хоць ты і старэйшы, а ў крыўду я табе не дамся! Будзем дзяліцца.

– Давай! – крычыць і большы брат. – Дзяліцца, дык дзяліцца!

Вярнуліся ў хату і пачалі дзяліцца. Падзялілі ўсю гаспадарку. Дайшло да гасцей.

– Давай і гасцей дзяліць! – кажа меншы брат. – Я вазьму аднаго госця на сваю палавіну хаты, а ты другога – на сваю.

– Добра, – згадзіўся большы брат. – Дзяліцца, дык дзяліцца!

Падзялілі і гасцей.

Прыйшла пара абедаць. Большы брат згатаваў добры абед, нават два скруткі каўбасы на стол палажыў. А меншы наварыў капусты, ды і то нішчымнай.

Селі есці. Меншы брат кажа свайму госцю:

– Няма ў мяне, дарагі госць, чым цябе частаваць: бачыш, брат усю скаромніну пры дзяльбе забраў. Вазьмі ў яго хоць скрутак каўбасы.

Госць быў ласы на чужыя каўбасы. Але толькі працягнуў ён руку па каўбасу, як большы брат – трах! – яго лыжкаю па лбе.

Тут меншы брат схапіў апалонік.

– Як! – закрычаў ён на большага брата. – Дык ты майго дарагога госця будзеш біць лыжкай?! Калі-ж так, то я твайго апалонікам трэсну!

Ды як трэснуў госця па галаве, што таму аж неба з аўчынку здалося.

Тады большы брат схапіў качаргу.

– А калі ты майго, – кажа, – яшчэ даражэйшага, чым твой, госця будзеш біць апалонікам, дык я твайго качаргою перацягну!

– А калі ты майго качаргою, – бушуе меншы брат, – дык я твайго зусім вон выкіну!

І ён схапіў госця большага брата за каўнер ды павалок за парог.

– Ах! – закрычаў большы брат. – Калі так, дык няхай-жа і твой ідзе за маім!

Пры гэтых словах ён схапіў госця меншага брата і вытурыў за дзверы.

Ачухаліся госці ад такога пачастунку, пабралі лахі пад пахі ды ходу дадому.

Так браты пазбавіліся ад надакучлівых гасцей.

## Недалікатны сын

**БЫЎ** у аднаго чалавека сын. Вялікі вырас, а ніколі бацьку бацькам не назваў.

– Кузьма, – крычыць сын на бацьку, – ідзі араць! Кузьма, загані свіней у хлеў!

Крыўдна бацьку, ды што паробіш: малога не перавучыў, а цяпер рады не дасі.

Смяюцца людзі з Кузьмовага сына.

– Дурань, – кажуць, – як гэта можна, каб бацьку не паважаць!

А яму хоць-бы што: не слухае ні бацькі, ні людзей.

Аднаго разу паехаў Кузьма з сынам па сена. Наклалі вазы ды едуць дахаты: бацька на адным возе, сын – на другім.

Мінулі гладкую дарогу, уехалі ў лес. Тут пайшлі карчы ды выбоіны.

Злез бацька з сена, ідзе збоку, за возам наглядае, каб не абярнуўся. А сын ляжыць на сваім возе ды толькі камандуе:

– Кузьма, вунь яма – падтрымай воз! Кузьма, правядзі маю кабылу па ўзбочыне, а то кола за корч зачэпіцца!

Бегае бацька ад воза да воза, не можа ўправіцца. А сын толькі выскаляецца з яго:

– Маладзец, Кузьма! Добра стараешся.



*Працяг на стар. 22.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 21.

Узлаваўся бацька і перастаў бегаць да сынавага воза.

У адным месцы сынаў воз трапіў у глыбокую выбоіну і перакуліўся... Сын шлёпнуўся носам у гразь.

Устаў ён і лае бацьку:

— Бачыш, Кузьма, што ты нарабіў!

Паднялі воз і паехалі далей. Сын ужо і на сена не палез. Ідзе збоку ды ўсё бурчыць на бацьку.

Даехалі да крутога павароту. Бацька свой воз падпёр плячом і аб'ехаў паварот, а сын пашкадаваў сілы траціць. Воз перакуліўся і падмяў яго пад сябе.

— Кузьма! — крычыць сын з-пад сена. — Падымі воз!

Маўчыць бацька, як вады ў рот набраўшы. Выняў з кішэні капшук, закурыў люльку. «Паляжы-ж там, калі ты такі разумны», — думае бацька.

Клікаў, клікаў сын Кузьму, а той, як аглух. Сыну ўжо і дыхаць цяжка. Напалохаўся ён, заенчыў не сваім голасам:

— Бацька, ратуй!

Зарадаваўся Кузьма, што сын нарэшце-такі назваў яго бацькам. Падняў воз і кажа да сына ўсміхаючыся:

— На свеце, брат, жывучы, усяго нажывеш — і Кузьму бацькам назавеш!

З таго часу і пайшла гэтая прымаўка.

*«Муж і жонка» (беларускія народныя казкі, пераказ і апрацоўка А. Якімовіча). Мн, 1957 г.*









Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА, Аляксандра ШМІДТА.



# Вожык на сцэне





Малюнак Алега ПАПОВА.

## Прыпеўкі

Гэта скуль такі узяўся
Кавалер, як Геркулес?
Як завуць, не запытаўся,
А за пазуху палез!

Магу шчыра пабажыцца:
Шуры-муры — дурата.
Хто без жонкі
спаць лажыцца,
Той сапраўдны сірата!

На базары мусіў быць,
Хацеў мілачку купіць.
Але іх не прадаюць:
Толькі дарма аддаюць!

Калі есці ўсё падрад,
Полечку не трэсці,
Хутка станеш акурат,
Як сасіска ў цесце.

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

А за вёскай — зорачка,
А я думаў — жоначка.
Зваў, гукаў — усё не чуе...
Няхай з д'яблам заначуе!

Не дай чорт, не дай Бог
Са старым займацца:
Па калена барада —
Лезе ж цалавацца.

Рос, рос, не дарос —
Карапуз жаніўся,
А як лёг на ложак спаць,
Ночанькай зваліўся.

**Запісаў**
**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

Не давайце мне вячэраць,
Не давайце ўволю спаць.
Дайце толькі адну міласць —
Майго любага кахаць!

Мяне мілы пакахаў
Не за хустку белую.
Мяне мілы пакахаў
За натуру смелую.

Мне чарнявы
ўчора здрадзіў.
Думала, не выжыву...
Па дарозе да абрыву
Аддалася рыжаму!

Цалаваў мяне каханы
Летам аж з падскокам.
А зімой дык абыходзіць
Неабдымным бокам.

**Праспявала**
**Наталля ДРОБЫШАВА,**
*г. Касцюковічы.*



Малюнак Алега ПАПОВА.



## Комікс
















Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.